Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 29 (80). Вільня, Субота 26 Сакавіка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:

ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.

Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:

на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.

Для заграніцы удвая даражэй.

Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Дзе-ж закон?

Распараджэньнем п. міністра ўнутраных справаў Беларуская Сял. Раб. Грамада абвешчана нелегальнай партыяй. Хоць зьяўляемся палітычнымі працўнікамі Грамады, але-ж у імя справядлівасьці хочам разгледзець зусім безстаронна гэтую справу.

Перадусім, калі прыглядзецца да наступку ў даным выпадку ўраду, дык увідзім, што ўрад ліквідуючы Грамаду, апэруе ў гэтым не на падставе якіх-колечы ўставаў ці абавязуючых законаў дзяржавы, а проста па свайму на гэта жаданьню. Ясна, што ў дэмакратычнай рэспубліканскай дзяржаве гэта не павінна мець месца.

Гэтакія справы творацца або на падставе ўставаў, або па судовым пастановам. Аднак-жа гэтага ў даным выпадку мы ня бачым. Праўда, арышты сярод Грамады адбыліся і можа сярод арыштаваных будуць гэткія асобы, якія падайдуць пад кадэкс карны за антыдзяржаўную працу, але-ж можа ня ўсе. Калі-ж нават, паўтараем, і будзе хто вінават, дык ці-ж за аднаго ці некалькіх сваіх сябраў адказна ўся арганізацыя? — Дапусьцім, што ўсе сябры дагэтуль легальнае партыі вінаваты, дык чаму-ж тады робяцца вынятκі, чаму-ж не арыштоўваюцца пагалоўна ўсе сябры? Чаму? — Таму, што ўсе не вінаваты. А калі гэтак, дык нашто-ж пэўнай частцы грамадзянства адбіраць свабоду вольнага праяўленьня сваей палітычнай думкі і арганізаванага імкненьня направы благіх бакоў жыцьця і абставінаў?

Пішучы гэта, мы не баронім ідэалёгію Грамады, не, мы астаёмся пры сваіх паглядах, але-ж зварачваем увагу на тое, што з ідэалёгіяй бароцца фізычнаю сілаю нельга.

Ведаем добра, што ўва ўсіх дэмакратычных дзяржавах ёсьць вольнасьць палітычных перакананьняў. Усім грамадзянам дазваляецца мець свае ўласныя перакананьні і належыць да тэй ці іншай палітычнай партыі. Нават камуністычная партыя ў большасьці дэмократычных дзяржаваў зьяўляецца легальнай. Найбольш антыдэмакратычны лад ёсьць якраз у СССР., дзе грамадзянам не дазваляецца належыць да ніякае партыі апрача камуністычнай, затое жыхары Саюзу ССРР не зьяўляюцца вольнымі грамадзянамі, а толькі падданымі камуністых, якія не прызнаюць у чалавеку ягонага Я. Але-ж дэмакратычныя дзяржавы ня могуць браць прыкладу з Саветаў. Калі так урады пачнуць абвяшчаць палітычныя партыі за нелегальныя, дык няведама на якой партыі устрымацца, бо сярод сяброў кожнае партыі могуць знайсьціся праступнікі з урадовага пункту гледжаньня, ды на'т праvакатары, якія сумысьле могуць наладзіць якую авантуру сярод часткі сяброў партыі, каб пасьля ўрад могу ўсю партыю абвясьціць нелегальнаю, забараніць да яе належыць. Калі пайсьці па гэтай дарозе, то можна будзе зайсьці задалёка і, такім чынам, зусім скасаваць дэмакратычны лад.

Апошні загад ураду якраз зьяўляецца антыдэмакратычным, не апіраецца на ніводнае ўставе і затым пярэчыць асновам канстытуцыі. Аднак у тым нашае прыкрае палажэньне, што гэтае канстытуцыі не бароніць польскае грамадзянства, але меньшасьць.

Рэч ясная, што нашая аброна яшчэ больш падахвочвае ўрад да беззаконных загадаў і распараджэньняў. Мы гэтаму зусім ня дзівімся, але дзівімся, польскаму дэмакратычным грамадзянству! Як яно ўжо выглядае ў вачох цывілізаванай дэмакратычнай Эўропы, калі дазваляе ўраду касаваць заваяваньні яшчэ з часоў францускае рэвалюцыі?!

## Прамова сэн. Багдановіча

**ў Сэнаце 10.III с. г. пры дыскусыі над бюджэтам Міністэрства Рэлігійных Вызнаньняў.**

Высокі Сэнаце! Ад імя Клюбу, да якога маю гонар належаць, г. з. ад імя славянскіх меншасьцей Сэнату, заяўляю, што мы будзем галасаваць проці бюджэту Міністэрства Рэлігійных Вызнаньняў. Хоць гэтая высокая трыбуна дае нам права дэклярацыйна выясьніць і ўматываваць нашы адносіны да бюджэту, і, паміма таго, што мы ўжо мала верым у актуальнае значэньне дэклярацыяў — Вы Паны, адвучылі нас верыць, — але-ж ўзяты намі абавязак перад народамі якія мы прадстаўляем, змушае нас яшчэ раз, можа быць апошні раз, выкарыстаць з гэтай трыбуны, пакуль і яна не зьнікла для нас, як зьнікли ўрачыстыя абяцанкі польскіх правадыроў. На жаль, якою горкаю іроніяй зычаць для нас сучасныя ўспаміны аб тых высокіх лёзунгах, — аб „роўных з роўнымі і вольнымі!“ Тыя, якія занадта хутка з запалам энтузіястаў, паверылі ў праўдзівасьць гэтых слоў, цяпер за тую веру пакутуюць за кратамі...

Пераходзячы да справы, папераджаю, што буду гаварыць выключна аб царкоўных справах дзеля таго, што аб школьных справах будзе гаварыць мой калега — украінец сэн. Карпінскі.

Сучасны ўрад выступіў з паважнай вывескай як урад „маральнага аздараўленьня“, Плошча адносін паміж Царквою і Дзяржаваю, лічу, ёсьць адна з тых, якая найбольш вымагала тасавацца да гэтай падставы. Аб нашых царкоўных балячках і ненармальнасьцях у сваім часе многа гаварыў з гэтай трыбуны і не хацеў-бы паўтарацца. Але-ж тагды адзін з маіх калегаў не згадзіўся на маю характарыстыку палажэньня праваслаўнай царквы ў Польшчы, на падставе маіх зусім непрыязных адносінаў да герархіі афіцыяльнай. Дзеля гэтага з мэтай апраўданьня маіх выясьненьняў, прытачу некалькі вынятκаў з мэмарыялу, які паданы быў у канчатку 1925 г. таю самаю афіцыяльнаю герархіяй, карыстаючыся з даверу ўраду.

Пуводле таго мэмарыялу, палажэньне праваслаўнай царквы ў Польшчы ня можа лічыцца нармальным. „Адносна права ўласнасьці праваслаўнай царквы не прызнаецца“. „Уся маемасьць царквы фактычна канфіскавана“. „Міністэрства не прызнае права ўласнасьці на самыя царкоўныя будынкі“. „Былі шматразавыя прыклады зачыненьня цэркаваў і недапушчэньня да іх духоўнікаў“. „У апошніх часах ізноў зьявіліся выпадкі гэтак званай рэвіндыкацыі, г. з. проста ўрываліся ў цэркви р.-каталіцкія духоўнікі шляхам зрываньня замкоў, пасьля царква ўжо аставалася ўласнасьцю каталікоў, або ў лепшым выпадку ізноў запечатвалася, а вінаватыя аставаліся не пацягнутымі за гэта да адказнасьці“. „Царкоўная ўлада і ўся герархія да ніжэйшых ступеняў уключна пастаўлена ў залежнасьць ад добрай або злой волі адміністрацыйных уладаў, вышэйшай або ніжэйшай катэгорыі“. „З духоўнае школы міністэрства творыць нейкія пробы, выконваныя часта без паведамленьня духоўнай уладзе“. „Ніжэйшае рэлігійнае навучаньне зусім ня існуе“. Духавенству катэгарычна забаронена „нядзельная“ школа для вучэньня пры цэрквах дзяцей пачаткаў веры, царкоўна-славянскае мовы і царкоўнага сьпеву“. „Да апошняга часу большасьць духавенства лічыцца за „obcokrajowców“ і ледзь таляруюцца, будучы пазбаўляных элемэнтарных правоў“ і г. д. Вось якую характарыстыку дае афіцыяльная царкоўная ўлада, з гэтага відаць, што нічога не перавышыў ў маей папярэдняй прамове.

На жаль мушу сьцьвярдзіць, што за гэты апошні год пад уладай ураду „маральнага аздараўленьня“ гэтае палажэньне не палепшылася. Каб не быць галаслоўным прытачу факты.

Яшчэ ў 1921 годзе ў абураючы спосаб у часе набажэнства была адабрана праваслаўная царква ў Новым-Двары, Сакольскага пав. Усякія заявы і просьбы парафіян аб звароце ім гэтай царквы асталіся бяз вынікаў. Мясцовы ксёндз ужо пачаў перабудоўваць тую царкву на касьцёл, хоць касьцёл ёсьць блізка. Парафіяне зьвярнуліся ў Сойм. У 1923 годзе ў Новы-Двор выяжджала ў поўным складзе соймавая камісія, якая прызнала рацыянальнымі дамаганьні парафіян і аднагалосна выразіла апінію, што зьнішчэньне царквы належыць зараз-жа прыастанавіць і што ўрад павінен прыхіліцца да направы зьнішчанай часткова Царквы.

У той час яшчэ ня было „маральнага аздараўленьня“ і дзеля гэтага ўрад трохі лічыўся з апініяй уставадаўчых палат. Міністэрства рэлігійных вызнаньняў ужо ўлажыла адзін за другім два праекты коштаў гэтай царквы, але пасьля праекты тыя былі схаваны ў бюрка, а мясцовы ксёндз, пачуўшы ў паветры „маральнае аздараўленьне“, ізноў патроху ўзяўся зьнішчаць царкву. Цяпер парафіяне просяць, каб ім пазволена было адбудаваць царкву на ўласны кошт, але-ж і гэтага ім не даюць. Некаторыя вёскі гэтай парафіі ад найбліжэйшай царквы знаходзяцца ў адлежнасьці 18 кілёмэтраў. „Маладыя парафіяне — гэтак пішуць верныя гэтай парафіі — сьвяточнымі днямі, вынікам вялікай адлежнасьці ад царквы, шукаюць забаўкі ў пьянстве і ў картачнай ігры, мёртвыя хаваюцца без абрадаў, дзеці астаюцца бяз хрысту, многа верных бяз споведзі і г. д. Няхай паны скажуць: для каго гэта ўсё робіцца, каму гэта патрэбна: каталіцкаму касьцёлу? Дзе той „tertius gaudens“, які скарыстаў з гэтае непатрэб-

# Да нас пішуць.

### Суботніцкая бугальтэрыя.

Бугальтэрыя наагул вельмі цікавая навука. Цікавая бугальтэрыя італьянская, цікавая амэрыканская, а найцікавейшая і найпрасьцейшая гэта ўжо, напэўна, суботніцкая. Вось прыклад: авёс на рынку ў нас каштуе 5 зл. за пуд, а па суботніцкай гміннай бугальтэрыі ён выходзіць $12^1/_2$ зл.; сена каштуе на рынку $1^1/_2$ зл., а па гэтай бугальтэрыі 2 зл. 30 гр. Выходзіць усё гэтак за тым, што войт наш па яго собскіх словах, мае поўную кваліфікацыю на войтаства. Як „кваліфікаваны“ чалавек, ён для ўсякіх закупаў стварыў камісію з трох радных. І вось гэта „камісія з трох“ едзе на гмінным каню купляць для гмінных-жа каней авёс. У дзень яна закупіць два пуды і заплаціць 10 зл., а дыеты атрымае 15 зл. дык і выходзе, што пуд аўса каштуе $12^1/_2$ зл. Сена гэтаксама. І вось нашыя сяляне ня хочуць прызнаваць такой новай бугальтэрыі і абураюцца процiў яе, а староства і соймік лідзкі глядзяць на гэта неяк праз пальцы. (А мо' і самы навучыліся такой бугальтэрыі). Гледзячы на гэткія парадкі міма волі думаецца, ці не ўзяла Ліда ў спадчыне па Валожыне засады: „Нам разумных і граматных войтаў ня трэба; чым войт дурнейшы тым для нас лепш“. Гэткія словы заўсёды паўтараў заступнік інспэктара п. Радзевіч. Во каб не трымалася Ліда гэтай засады, дык нашага войта на яго становішчы напэўна ня ўдзяржала-бы ніякая сіла. Наш пробашч кс. Жэброўскі, de facto зьяўляецца войтам, бо ні аднэй паперкі войт de jure не падпіша, пакуль не сходзіць на плябанію замальдаваць. У канцы ўсіх канцоў мы маем шмат „nakazów płatniczych na podatek deficytowy“.

*Рыбацкі.*

# Гаспадарскі аддзел.

### Як вывесьці сажу з пшаніцы.

Кожнаму гаспадару, каторы сее пшаніцу, вядома, як вялікую шкоду робіць сажа. Добрая палавіна каласоў струхлее, а ад гэтага і прыбытак зьменшыцца на палавіну. Апрача таго, мука, дзе было многа сажы, шкадлівая як для чалавека, так і для жывёлы. Вось сажа па лаціні (ustilago tritici) і (tilletia tritici) гэта ёсьць хвароба ды іншэ і заразная, якую як і ўсякую іншую трэба лячыць. Трэба заўсёды памятаць прыказку: „што пасееш тое пажнеш“. Вось-жа, хто ня хоча каб сажа псула яму пшаніцу, хай сее як найчысьцейшым насеньнем. Некалькі пылінак сажы хопіць каб занячысьціць морг пшаніцы. Каб збавіцца сажы, гаспадары хапаюцца за розныя спосабы. Заграніцаю кожны гаспадар ужывае дзеля гэтага тога ці іншага марыла. У нас-жа найчасьцей пшаніца з сажаю мыецца або чыстаю вадою, або ў найлепшым выпадку да вады дадаецца колькі драбкоў т. з. сіняга камня ($CuSO_4$) Звычайна ў першым выпадку саўсім небывае жаднай карысьці, у другім вельмі слабая.

Маю на мэце падаць адзін практычны спосаб марэньня пшаніцы ў т. зв. 2% бордаўскай юшцы (раствор 2 кг. сіняга камня і 2 кг. паленай вапны ў 100 літрах вады.

Прыгатаўляецца юшка ў гэткі спосаб: адмераўшы 100 літраў вады да дзеравяннай пасудзіны (цэбар ці інш). Завешваем ў ваду торбачку з сінім каменем ($CuSO_4$) на ноч, паленую вапну ($CaO$) ў другоў дзеравяннай пасудзіне і распускаем вапну на малако цераз ноч, на другі дзень мешаем вапну з растворам сіняга камня. Пшаніцу, якую маемся сеяць за адзін два дні, пасыпаем у асобную пасудзіны. Паліваем юшкаю так, каб пад пшаніцаю юшка паднялася болей-меней на тры цалі пры гэтым часта мешаем дзеравянную лапатаю. Ніколі ня трэба ўжываць пасуды або лапаты жалезнай. Пшаніца мокне ў юшцы ад 24 да 36 гадзін; потым зьліваем юшку, а пшаніцу сушым і сеем. Юшка добра ўчынкуе праз цэлы тыдзень, аднак ня больш. Старая юшка ня мае тае сілы як сьвежая. У аднэй юшцы можна пяць, шесьць разоў мачыць пшаніцу і ўсякі раз учыпак будзе добры. Дык вось пяць, шесьць гаспадароў могуць супальна зрабіць юшку і мачыць пшаніцу адзін за другім. Хто патрабуе менш як 100 літраў юшкі, можа зрабіць 50 або 25. Трэба аднак заўсёды дбаць каб на 100 часьцін вады прыпадала 2 часьціны сіняга каменя і часьціны вапны; так на 50 л. вады — 1 кг сіняга каменя 1 кг. вапны, на 25 л.—$^1/_2$ кг. сіняга каменя $1\ ^1/_2$ кг. вапны.

*М. Жук.*

### Земскі камісар.

Земскі камісар Нясьвіскага павету, гэтак даўся ў знакі насяленьню свайго павету, асабліва сялянам, што кожны, хто меў да яго якую-колечы справу, адзываецца аб ім вельмі блага. І ня пытайся, кожны адкажа, што наш камісар—гэта дрэнны чалавек. Урадуе камісар па серадах, што-тыдзень, як кажа вывешанае абвяшчэньне на дзьвярах яго канцэлярыі. Згодна з гэтым абвешчаньнем селянін, з заявай аб прырэзцы зямлі ў руках стараецца трапіць да пана камісара на сераду. Аднак часта бывае так, што прыехаўшаму інтэрасанту адказваюць, што камісара няма ў дому і прапануюць прыехаць у наступную сераду. Добра, калі такі селянін-інтэрасант, жыве недалёка ад Несьвіжа, а калі вёрст за 40—50, дык прыходзіцца таму блага. Яшчэ і з гэтым можна пагадзіцца, калі ёсьць дарога і лёгка прыехаць, але вось калі няма дарогі, бездарожжа, дык як тады дабрацца да камісара? Любіць вінаваціць гэту-ж самую дарогу і сам камісар, калі чамусьці спозніцца прыехаць на азначаны дзень у вёску, хаця-ж яго тройца добрых коняў не павінна баяцца гэтай дарогі.

Заяву вашу, калі ў добрым гумары дык прыме, а калі не, то прычапіўшыся да чагокольвек, як напр. памылак у мове, скажа напісаць заяву на нова. Прыймае інтэрасантаў па выбару. Хто багацей і знацей, таго і спаткае, і руку падасьць, і ў крэсла пасадзе, і пагаворыць добра, на'т і да дзьвярэй праводзе і ў тры мігі адправіць да хаты.

Наш камісар, або як яго сяляне называюць „рабыя порткі“ (бо заўсёды прыяжджае на вёску ў рабых портках), вельмі добры для паноў, энэргічна бароніць інтарэсы нашых абшарнікаў, але для нас сялян, такі чалавек, ад якога можна атрымаць масу ўсялякіх абяцанак, можна пачуць цэлую лекцыю аб маральнасьці, але толькі ні зямлі ні належнай справядлівасьці.

*Мужычок.*

### Нашая вёска.

(Гарбуноўшчына, Несьвіскага павету).

Вёска нашая, так як і ўсе беларускія вёскі, выглядае дрэнна і няпрыгожа. Даўней гадоў сем таму назад, яна была адна з байчэйшых вёсак у Нясьвіскім павеце. Многа тут было моладзі, як простай, так і „вучонай“. Цяпер нашыя „вучоныя“ працуюць у Польшчы. У вёсцы-ж нашай не засталося ні воднага інтэлігентнага чалавека, які-б мог што-кольвек памагчы тутэйшым сялянам. Засталася яна самотнай, дый заглохла. Стаіць наша вёска паміж гор, якія акружаюць яе з усіх бакоў, недалёка места Клецка. Можа хто з чытачоў і знае яе—гэта Гарбуноўшчына. Няма тут ніводнага дому якім-бы можна было пахваліцца, бо сялян у нашай вёсцы багатых, як у другіх вёсках, няма. Калі-ж, праўду кажучы, разгледзіўшы добра можна сказаць, што выглядае яна міла. У апошнім годзе было ў нас гэтакае здарэньне: З суседняга маёнтку, дзе стаіць пастарунак, зайшоў аднаго разу да нас па службе „сам“ камэндант пастарунку Шыбэйко. Яму надта не спадабалася што ў нашай вёсцы вуліца была грязная і вузкая. Праз тыдзень ён загадаў сялянам нашай вёскі разгарадзіць усе агародчыкі, якія знаходзяцца ў кожнай вёсцы ля вуліцы перад хатамі дзеля кветак. Разгарадзілі. Праўда, вуліца трохі нашырэла, але на гэтым яшчэ ня скончылася. На другі дзень ён прышоў і прыказаў выкапаць роў сярод вуліцы, каб асушыць яе. *Сялянам* хоць і не хацелася гэтага рабіць але *мусілі*, бо адказацца баяліся. Роў быў выкапаны і агароджаны з абодвых бакоў калкамі, якія тырчаць у аршын над зямлёй. Гэтае здарэньне застаецца сялянам у памяці на другі час, бо падчас вялікага дажджу, або як разстаіў сёлета сьнег, вуліца наша выглядае як у Вэнэцыі, толькі няма яшчэ пакульшто лодак. Народ тутэйшы—цёмны. Праўда, ёсьць тут нейкая школа, у якую ходзяць дзеці, але што яны там робяць, дык трудна адгадаць, бо за тры гады добра знаюць толькі тры словы: „Аля, Цэля ды Ас“. Сяляне нашыя надта любяць сваю родную мову і некатарыя з іх нават хацелі-б купіць сваім дзеткам беларускія буквары, але і гэтага ня могуць ні адкуль дастаць. Ёсьць тут і такія, якія хацелі-б пачытаць сваю родную газэту, але яны на'т не разумеюць, як выпісаць яе.

*М. Буката.*

### Закуп зямлі.

(Грыцэвічы, Нясьвіскага пав.).

Перад вайной (у 1907 г.) малазямельны Паўлюк Ландорык зрабіў дагавор з панам Чарноцкім на куплю хутара Какоры. У часе гэтага дагавору даў ён пану Чарноцкаму 400 рублёў, а рэшту 600 рублёў прырок аддаць пазьней. Кончыўшы справу дагавору Бондарык церайшоў на хутар і пабудаваўся.

Па вайне пан Чарноцкі прагнаў Бандарыка з хутара і не вярнуў яму грошы, кажучы, чаму ён не аддаў рэшты грошы ў часе вайны, а Бандарык аддаў-бы пану Чарноцкаму грошы, каб пан ня выяжджаў з месца. Бо калі выехаў, дык каму-ж было аддаваць. Была іхняя справа і ў судзе; але ні грошы, ні тым болі зямлі Бандарык ня мог вярнуць, бо блага голаму судзіцца.

Дык вось паны нятолькі не даюць сялянам зямлю, а яшчэ ад іх адбіраюць.

*Гарушны Салавей.*

# НАШАЯ ПОШТА.

**Пакрыўджанаму.** Калі перад сьмерцяй бацькі аставіў сваю часьць для Вашай маткі, дык яна як хоча так і можа распараджацца зямлёй. Наагул браты дзеляць спадак папалам.

**Андрэю Сеўку:** Газэту пасылаем, грошы вышліце пераказам праз пошту.

**Букату М.:** Адкрытку перадалі ў кнігарню, на Завальнай 7.

**Полымя:** Карэспандэнцыю вашу зьмяшчаем. Пішыце больш, на маркі і паперу прышлём. Адкрытага пісьма аб Грамадзе не зьмяшчаем.

**Карповічу Віктару:** Вашае пісьмо перадалі ў Кнігарню „Пагоня“.

**Лабачэўскаму Г.:** Грошы атрымалі газэту пасылаем.

**Івану Шушу, Гомкавічу, Ярашэвічу, Перхавічаніну:** Карэспондэнцыі атрымалі памагчымасьці зьмесьцім.

**Ступніцкаму** З пратэкцыяй вельмі цяжка, бо сваіх беларускіх становішчаў ёсьць мала. Папрабуйце адчыніць на месцы канцэлярыю заяваў і пісаць людзям заявы да рожных установаў.

Чакаем на карэспандэнцыі; газэту пачынаем пасылаць.

**Урбановічу:** Газэту будзем пасылаць, толькі трэба каб Вы парупіліся ўсё-ж-такі прыслаць падпіску.

**К. Рачко:** Газэту пасылаем Вам акуратна.

**Маладому Беларусу:** Карэспандэнцыю Вашу зьмясьцілі ў № 27. Інтэрпэляцыя будзе надрукавана.

Э. Гойдзю, Пачопку В., Петрашэвічу, Чудуку, Кудзю, Тарабашку, Жуку, Зубельскаму, Далмату, Куцуру, Галоўку М., Галоўку А., Астрогу, Кунцэвічу, Скрыпку, Давілюку, Дуткевічу — пробны нумар паслалі.

Крэсу Ал., Стэфановічу І., Лагуну І., Фёдараку, Сушку А., Пр. Шчанововічу, Навіцкаму Ал., Янчэўскаму, Голубу Б., Грыцкевічу А., Робізе — газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Маляўскага Мікалая, Падбярэскага Гальяша, Дварчаніна, Кастуся Рачко, Трафіма Жыдка — па 2 зл.

# Афяры на палітычных вязьняў.

Атрыманы афяры на палітычных вязьняў, у суме 21 зл. 50 гр. ад 31 асобы. Афяры сабраны Радашкоўскім Гуртком Інстытуту.

# Куток сьмеху і сатыры

### Руплівы муж.

— Няхай толькі пан аптакар добра назначыць, каторае лякарства для каровы, а якае для жонкі, бо ня дай Божа, памылюся, дык яшчэ кароўка здохне.

### Мова на паказ.

Нейкі 80-гадовы дзядок ажаніўся з 20-гадоваю дзяўчынаю. Падчас шлюбу ксёндз сказаў мову, якая пачыналася гэткімі словамі:

— „Божа, даруй яму, бо ня ведае, што робіць!“

### Добрая парада.

Каська: — Ай-ёй-ёй! Трэска ўбілася мне ў палец. Ой-ёй-ёй! Як мне баліць!

Міхаська: Ня крычы, дурная, ўлажы палец у вагонь, дык табе трэска выгарыць.

### Улезла не ў пару.

Жабрак: Паважаная паня! Калі паня мне нічога ня дасьць, дык буду праз тры дні галодны.

Дзяўчынка з кошыкам: Дзедка! Прынясла табе полудзень. Вячэру прынясу а пятай гадзіне.

**Прысылайце грошы на падпіску.**

Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.